


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 9(667)**
**Верасень 2021 г.**


# Мітынг каля консуляту РБ у Нью-Ёрку

У панядзелак, 9 жніўня каля консуляту Рэспублікі Беларусь на Мангэтане прайшоў мітынг, прысьвечаны першай гадавіне народнага ўздыму падчас прэзыдэнцкіх выбараў 2020 году ў Беларусі. Тады, год назад, тут жа пад сьценамі консуляту РБ у Нью-Ёрку тысячы беларусаў з розных штатаў стаялі ў вялізнай чарзе, каб ўзяць удзел у выбарах. Каля ўваходу сотні беларусаў пратэставалі супраць маніпуляцыяў лукашэнскага рэжыму, арышту і перасьледу кандыдатаў у прэзыдэнты і ўціску палітычнай апазыцыі. Па выніку экзыт-апытаньняў тады ў Нью-Ёрку з падаўляючай перавагай перамагла Сьвятлана Ціханоўская. Тое самае зафіксавалі дзясяткі іншых выбарчых участкаў у Беларусі, дзе супрацоўнікі сумленна лічылі галасы і дзе ня быў задзейнічаны "адміністрацыйны рэсурс" рэжыму. Калі ж рэжым нахабна, у каторы ўжо раз, падтасаваў вынікі выбараў і аб'явіў перамогу Лукашэнкі, людзі выйшлі на вуліцы. І выйшлі ня сотні, нават ня тысячы, а дзясяткі й сотні тысячаў па ўсёй Беларусі, ад Горадні да Віцебску, ад Брагіна да Смаргоні. Мітынгі ў Менску зьбіралі нябачаную ніколі раней у гісторыі колькасьць пратэстуючых. І што самае галоўнае – людзі пратэставалі пад беларускімі нацыянальнымі сымболямі, бел-чырвона-белым сьцягам і гербам Пагоня. Шмат хто казаў тады, што менавіта так нараджаецца нацыя, і мы прысутныя пры гэтых народзінах.

Ачуняўшы, рэжым неўзабаве пачаў жорсткі перасьлед пратэстоўцаў. Пасьлядоўна зачышчалася прастора – здымалася кожная бел-чырвона-белая стужка на дрэве, кожны патрыятычны надпіс. Затым перайшлі на патрыётаў, сталі перасьледваць дваровыя чаты і затым рэпрэсіямі спынілі рэгулярны штотыднёвы выхад людзей на вуліцы. Тады ўзяліся за недзяржаўныя арганізацыі, мэдыі. Здавалася б, пратэст зьнік і выпарыўся. Але не, тая вялізная народная энэргія, як вулькан, застаецца віраваць і назапашваць сілы ўнутры, у душах людзей.

І менавіта ў падтрымку гэтых людзей і дзеля ўшанаваньня тых ахвяраў і пакутаў, якія беларускія людзі аддалі й аддаюць для яшчэ не настаўшай, але з кожным днём набліжаемай перамогі, Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня" поруч з прадстаўнікамі іншых арганізацыяў ці проста з тымі, хто змог у гэты будзённы дзень прыйсьці да консуляту, зарганізавала мітынг памяці й пратэсту. Прысутныя ўшанавалі памяць загінулых і трапіўшых за краты і выказалі пратэст супраць злачынстваў рэжыму Лукашэнкі у дачыненьні да народу і супраць злачыннай падтрымкі яго расейскім рэжымам Пуціна.

Перад удзельнікамі мітынгу выступіў старшыня "Пагоні" сп. Віталь Зайка, ён прывітаў усіх прысутных і падзякаваў ім за падтрымку і ахвярнасьць. Прамоўца адзначыў, што народны ўздым жніўня мінулага году ня зьнік, але прыняў іншыя формы і чакае на працяг змаганьня, чакае на лідэра і прадуманы, плянамэрны шлях дзеля дасягненьня перамогі. Леташні ўздым быў беспрэцэдэнтны па колькасьці пратэстуючых, але ён ня быў першы. І ўсе папярэднія ўздымы, як хвалі, штораз набіраюць моцы. Аж пакуль, нарэшце, не ўздымецца народны "дзявяты вал", і не зьмяце з твару краіны ганебны злачынны рэжым Лукашэнкі, што ўжо 27 год дратуе й нішчыць Беларусь, змагаецца супраць яе мовы й культуры.




Затым са словам да прысутных выступіла сп-ня Кацярына Нікіценка, яна распавяла пра захаваньне памяці тых, хто ахвяраваў жыцьцё для Беларусі, і пра падтрымку тых, хто трапіў за краты, атрымаў судовыя несправядлівыя вырокі ад памагатых рэжыму. Мы можам падтрымаць гэтых людзей сваім словам, пішучы лісты да іх у зьняволеньне, і матэрыяльна падрымліваючы іхныя сем'і, што часта засталіся бяз сродкаў да існаваньня. Але змаганьне будзе працягвацца.

На вуліцы перад консулятам луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, прысутныя трымалі плякаты ў падтрымку свабоды для Беларусі й вызваленьня ўсіх палітзьняволеных, выгукалі лёзунгі за свабоду Беларусі й вызваленьне палітвязьняў.

***Віталь ЗАЙКА***

# Сустрэчы са Сьвятланай Ціханоўскай у Нью-Ёрку

У нядзелю, 25 ліпеня, у Нью-Ёрку адбылося некалькі сустрэчаў прадстаўнікоў беларускай грамады са Сьвятланай Ціханоўскай, што лічыцца пераможцаю прэзыдэнцых выбараў у Беларусі ў 2020 годзе, якая змушаная была пераехаць у Вільню. Першай была сустрэча з парафіянамі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Перад сустрэчай пытаньні можна было пісьмова падаць арганізатарам сустрэчы, якія дзеля эканоміі часу згрупавалі іх, каб не было паўтарэньняў. Роўна ў прызначаны час прыехала высокая госьця, яна паднялася наверх, і царкоўны хор засьпяваў “Дай Божа сто год”. Дыякан сп. Мікола Шчэрба правёў па царкоўнай залі й паказаў абразы й іншыя рэчы, коратка распавёў пра гісторыю Сабору. С. Ціханоўская выглядае акурат як на відэа і на фатаздымках, у вочы перш кідаюцца чорныя бровы і вочы, і чульлівыя вусны, густоўная фрызура. Вяла сустрэчу сп-ня Наста Ільліна. Затым сп. Шчэрба прачытаў ліст ад Расьціслава Гарошкі. Парафіянка сп-ня Алена Радзеўская выступіла з кароткім словам пра гісторыю БАПЦ і выказвала ад сябраў парафіі спадзеў, што ў новай, вольнай Беларусі БАПЦ будзе зарэгістраваная, бо цяпер лукашысты трымаюць аўтакефалію пад забаронай.

Затым з прамоваю да прысутных па-беларуску зьвярнулася Сьвятлана Ціханоўская. Пачала яна словамі: “Дарагія мае і родныя! Бо тут, на адлегласьці, пачынаеш разумець, што мы – сям’я, мы – свае. Нас яднае бяда, і змаганьне.” Затым прамоўца адзначыла, што пачалося ўтварэньне нацы на нашых вачох, адбываецца цуд. Яна распавяла пра свае візыты ў замежжы. Яе падзіўляе адкрытасьць і даступнасьць дэмакратычнай улады на Захадзе, яе празрыстасьць, справаздачнасьць. Сп. Ціханоўская згадала пра насычаны тыдзень, сустрэчы ў Дзярждэпартамэньце, інтэрвію, наведаньне Бібліятэкі Кангрэсу, дзе паказалі беларускія выданьні. Выступоўца распавяла пра ўзмацненьне рэпрэсіяў, пра патрэбу вызваленьня палітвязьняў. Потым прадстаўнікі гаспадароў сустрэчы перадалі госьці падарункі, царкоўны каляндар ды іншыя царкоўныя выданьні. Сп-ня Ала Орса-Рамана перадала Англа-беларускі слоўнік, кнігу пра фэстывалі ў Нью-Джэрзі аўтарства Янкі Запрудніка, а таксама кнігу “Беларусы ў ЗША” В. Кіпеля з дэдыкацыяй. Сп-ня Ціханоўская з цікавасьцю агледзела і пагартала падарункі. Сп. В. Дворнік падараваў ёй залатыя вырабы: Пагоню, крыж Эўфрасіньні Полацкай на ланцужках.



Затым пачалася сэсія пытаньняў і адказаў. Пытаньні пра “што думаеце пра роўнасьць ва ўладзе жанчынаў і пра пераадоленьне “патрыярхіі”. Адказ: “Роўны ўдзел у змаганьні дасьць роўнасьць улады потым”. Пытаньне пра санкцыі – што гэта ўдарыць па простых людзях. Адказ: “Людзі пакутуюць не ад санкцыяў, але ад рэпрэсіяў рэжыму. Наагул жа людзі просяць, каб аказалі больш сур’ёзны ціск”. Сп-ня Ільліна дадала пра неабходнасьць тлумачыць людзям дзеяньні пакрокава, каб яны ведалі, што адбываецца. Ціханоўская: “Санкцыі прывядуць да зьбядненьня, і выклічуць страйкі й падвышэньне актыўнасьці людзей”. Пытаньне ці зьмяніла б яна нешта ў сваіх дзеяньнях 9 і 10 жніўня. “Я галасавала як і ўсе, тады чакалі ў штабе Бабарыкі. Сотні тысяч людзей выйшлі пасьля бараніць свае галасы”. Пра лідэрства: “Кожны бярэ адказнасьць на сябе, ня можам зваліваць яе на некага. Была самаарганізацыя. Пасьля некалькіх дзён людзі выходзілі ўжо ня супраць несправядлівых вынікаў, а супраць гвалту. А што я зьехала 10-га... А дзе б я змагла зрабіць болей, за кратамі або тут? Тое, што ўсталёўваюцца адносіны ў замежжы – вялікі крок наперад”. Пытаньне як бараніць сувэрэнітэт, ці абмяркоўвалі гэта ў Амэрыцы: “Мы заўсёды кажам, што незалежнасьць і сувэрэнітэт Беларусі не на продаж. Ня ведаю, што робіцца за кулісамі лукашызму, але просім кожную краіну стаць гарантам нашай незалежнасьці. І заяўляем, што ўсе дамовы рэжыму, супярэчныя сувэрэнітэту, будуць скасаваныя.” Пытаньне пра будучыню для беларускай мовы: “Якая мова будзе гучаць у вашым урадзе?” Адказ: “Беларуская мова – гэта маркер сувэрэнітэту, і мусім бараніць мову гэтак, як баронім сувэрэнітэт. Але мы ня можа прымушаць людзей размаўляць на мове. Павінны аднаўляць вельмі паступова, каб былі задзейнічаныя школа, бацькі. Я жыла ў бабулі 3 месяцы штогод, і гэта бадай выключны ўжытак, рэшта году – у расейскамоўным асяродзьдзі. Гэта ня наша віна, хоць мову трэба аднаўляць. У маёй каманьдзе вітаецца ўжываньне беларускай мовы, і людзі пераходзяць на яе. І калі ва ўрадзе па-беаруску – будзе толькі вітацца.” Пытаньне пра што сказалі б мужу Сяргею: “Што б я сказала Сяр-

гею... Як раней гаварылі пра падтрымку адзін аднаго, але цяпер толькі аб здароўі, аб дзецях – не хочам, каб наша шчырае сумоўе было пры чужых. Калі раней нейкія краальныя рэчы ўзгадвалі, пачуцьцёвыя, дык цяпер толькі суха, бо ня хочам, каб нехта слухаў. У сёнешняй Беларусі амаль у кожнага ці сябар, ці сваяк пад рэпрэсіямі. Трэба трымацца, пакуль не пераможам.”



Пасьля сэсіі ўсе сабраліся разам на групавы фатаздымак. Да Ціханоўскай падыходзілі людзі сфатаграфавацца, пагаварыць. На тварах цікавасьць, усьмешкі, прыязнасьць. Цёплае разьвітаньне на прыканцы. Затым у кулюарах абмеркаваньне ўражаньняў і апініі, што каб як была якая Марыя Калесьнікава або Віктар Бабарыка, дык і слова беларускага не пачулі б. Агульнае ўражаньне ў большасьці пазытыўнае.

Праз некалькі гадзінаў адбылася другая сустрэча ў Вагнар Парку на Мангэтане, на беразе нью-ёрскай затокі зь відам на Статую Свабоды. На паляне сабраліся беларусы драпіраваныя ў нацыянальныя сьцягі. Стаяў намёцік, гукаўзмацняльнікі. Наагул месца гэтае хіба самае найлепшае ў горадзе для такой сустрэчы. Сабралася спора народу. Сп. Віталь Зайка выступіў з інфармацыяй пра Згуртаваньне “Пагоня”. Людзі ўжо паўставалі скрозь на лавы, шмат хто паздымаў перад тым абутак, так як (хіба наіўна) рабілі гэта суайчыньнікі пад час жніверьскіх падзеяў у Менску. У натоўпе была заўважаная пісьменьніца Тацьцяна Заміроўская. Карэспандэнты з “Голасу Амэрыкі” бяруць інтэрвію ва ўдзельнікаў. На мосьце за палянай таксама беларускія людзі, яны разгорнулі вялізны нацыянальны сьцяг. Наагул прыемнае месца, вяртаюцца ўспаміны з канца 1990-х. Падышла кабета з Бабруйску і папыталa пра арганізацыю “Пагоня”. Ціханоўская будзе толькі а 4-й, яшчэ шмат часу.

Натальля Ка вяла лятарэю, і выступаў сп. Яўген Сокалаў з Бостану зь песьнямі пад гітару. Сустрэчу вёў сп. Віталь Самсонаў, што некалі выступаў на адным з сэмінара “Пагоні” аб вучобе і працы. Нарэшце ў атачэньні целахоўнікаў, як сапраўдная галава дзяржавы, зьявілася сп-ня Сьвятлана Ціханоўская ў саколцы “Страна для Жизни”, па-расейску. Прамова па-беларуску, пачынаецца інакш чым у царкве: “Добры дзень, сябры! Добры дзень, Нью-Ёрк!”. Прамоўца распавяла, што быў цяжкі, але вельмі важны тыдзень, яна і каманда правялі ў Вашынгтоне перамовы, якіх не было яшчэ ў гісторыі Беларусі, будуць працаваць з прадстаўнікамі арганізацыяў, якія могуць дапамагчы. Дадала яшчэ пра сваю паездку і пра змаганьне на Бацькаўшыне. Шрубалёт тахкае ўверсе. Па небе хмары, але і сонца выглядае. Прайшоў карабель, даў гудкі й грамада энтузіястычна гукнула ў адказ. Працяг – адказы на пытаньні, без скрыпту, ужо па-расейску. “Часта чую: у мінулым годзе мы сапраўды сталі беларусамі. Я разумею, пра што гэта! І насуперак таму, што робіць рэжым, мы сапраўды ста-



заканчэньне на бачыне 4



**25 жніўня 1991 году** калі рухнуў пасьля жнівеньскага путчу СССР, пазачарговая сэсія Вярхоўнага Савету БССР надала статус канстытуцыйнага закону Дэкларацыі “Аб Дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі”. Гэтая Дэкларацыя была зацьверджаная Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 году і хоць і аб’яўляла Беларусь сувэрэннаю дзяржаваю, але насіла толькі рэкамэндацыйны характар і ня мела юрыдычнай сілы. Наданьне Дэкларацыі канстытуцыйнай сілы адмяняла дзеяньне савецкіх законаў на тэрыторыі Беларусі і фактычна аб’яўляла краіну незалежнай.

## Сустрэчы са С. Ціханоўскай

*заканчэньне з бачыны 3*

лі нацыяй, сталі сям’ёй, а ў сям’і клапоцяцца адны пра аднаго. І таму мы мусім падтрымліваць і змагацца за вызваленьне палітвязьняў, пачынаючы з найпростага – маральнай падтрымкі празь лісты й паштоўкі”. Пра санкцыі, што неабходна накласьці іх на прадпрыемствы, якія зьяўляюца кашалькамі Лукашэнкі. Пытаньні пра сілавікоў, чыноўнікаў, ці ёсьць сыгналы аб пераходзе – яны незадаволеныя рэжымам, але ім страшна, яны ня могуць далучыцца. “Работаем, маральна давім, каб далучаліся”. Пытаньне, што беларусы, якія застаюцца цяпер у Беларусі, могуць зрабіць? Могуць быць валанцёрамі, наладжваць сувязі, працаваць зь лекарамі, з працаўнікамі на заводах. Цяпер падтрымка – пісаць лісты, проста бесконца пісаць, дапамагаць сем’ям палітзьняволеных. І ўлучацца ў барацьбу на prасторы інтэрнэту. “У нас там усё часьцей зьяўляюцца сьцягі, гэта падымае ўсім настрой. Налепкі, заклікі, надпісы – гэта маленькія крокі, але шмат значаць для ўсіх беларусаў. Пасьля падзеяў жніўня-верасьня 2020 году беларусы ня вернуцца ў тую клетку. Хто што можа, той робіць. Без дыяспары мы не змаглі б рабіць тое, што робім, дзякуй вам.” Адказ на пытаньне ці магла б сустрэцца са сп. З. Пазьняком: “Гэты чалавек герой Беларусі, чалавек знакавы, мы працуем на адну справу – дык чаму не. З прыемнасьцю сустрэлася б”. Пра Расею: “Мяне заўсёды засмучае, што часьцяком, калі заходзіць гаворка пра Беларусь, дык заўсёды згадваецца таксама і Расея. Мы не прыдатак Расеі, мы асобная краіна, са сваёй культурай, са сваёй спадчынай. І мы хацелі б, каб усе гэта ведалі. Але таксама мы не хацелі б ваяваць з Расеяй, а каб у нас былі добрыя адносіны”.




Таксама былі пытаньні пра тое, як яна змагаецца са стрэсамі і пераадольвае цяжар працы, ці бачыць сябе ў палітыцы пасьля правядзеньня справядлівых дэмакратычных выбараў, і што хацела б сказаць цяпер мужу Сяргею. Затым многія ўдзельнікі мелі нагоду пагутарыць коратка з госьцяй, прывітаць асабіста, абняць, перадаць падарункі. Сотні людзей з розных штатаў ЗША з задавальненем канстатавалі, што нашая сп-ня Ціхноўская робіць добрае ўражаньне й здольная працаваць на сваёй пасадзе.

Наступным маршрутам падарожжа сп-ні Ціханоўскай будзе Каліфорнія, дзе яна сустрэнецца з прадстаўнікамі беларускай грамады ў Сан-Францыска і Лёс-Анджэлесе ( у Санта-Моніцы).

***Віталь ЗАЙКА***

*Здымкі аўтара*

Шаноўныя сябры Згуртаваньня ***“Пагоня”***, калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***“Весткі й Паведамленьні”***. *(інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich*.**

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку: **https://www.facebook.com/groups/13481102997080 2/***

*Паважаны **А. Лышчык,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрас.*

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

**Д. Аўхімовіч ..............30**
**А. Гаршкоў ................30**
**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас рэдакцыі:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*